# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№6 (229)

чэрвень 2021

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

## САЛІ-ДАР-НАСЦЬ

### У Залешанах прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда ўшанаваў памяць забітых жыхароў вёскі

Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда 7 чэрвеня прыбыў на Беласточчыну на запрашэнне прадстаўнікоў беларускіх арганізацый – старшыні Беларускага саюза ў Польшчы Яўгена Вапы, старшыні Беларускага гістарычнага таварыства прафесара Алега Латышонка і старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства Яна Сычэўскага.

Старонка 5

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома




# "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ВЫДАЛА ЗБОРНІК БЕЛАРУСКІХ ПРАЦ ГІСТОРЫКА ЛЬВА АКІНШЭВІЧА

Выйшаў з друку томік беларускіх прац гісторыка Льва Акіншэвіча (1898-1980), укладзены даследчыкамі беларускай эміграцыі Лявонам Юрэвічам і Наталляй Гардзіенкай.

У першы зборнік выбранага гэтага беларуска-ўкраінскага даследчыка ўвайшлі тэксты пра гісторыю беларускага казацтва, права, цывілізацыйную тэорыю, шматлікія рэцэнзіі на беларускія, украінскія і іншыя выданні, успаміны, надзвычай цікавае ліставанне з архіваў розных краін, тэксты пра дзеяча, а таксама найпаўнейшая на сёння ягоная бібліяграфія.

Леў Акіншэвіч ёсць добрым прыкладам асобы, чыя спадчына адначасова належыць беларусам і ўкраінцам. Народжаны ад бацькі-беларуса, ён значную частку свайго жыцця правёў ва Украіне. Тут пачалася яго навуковая дзейнасць, з украінскай гісторыяй і правам звязана большасць яго публікацый. Не дзіва, што нашыя паўднёвыя суседзі ўспрымаюць Льва Акіншэвіча як свайго.

Аднак у жыцці гэтага навукоўца і яго працы важную ролю адыгрывала беларуская тэматыка, Беларусь. Гэтая частка амаль невядомая беларускім даследчыкам, не ўключаная ў нацыянальны гістарычны дыскурс. Менавіта выпраўленню згаданай несправядлівасці і мае паспрыяць зборнік, які рыхтуецца да друку. Тут прадстаўлена пераважная большасць беларусацэнтрычных тэкстаў Льва Акіншэвіча: працы па гісторыі казацтва, права, цывілізацыйных асновах беларускай гісторыі (сярод іншага, упершыню друкуецца пераклад на беларускую мову англамоўнага артыкула пра гісторыю ўсходнееўрапейскай цывілізацыі ў працы Арнольда Тойнбі). Таксама ў выданне ўключаны шматлікія рэцэнзіі, што друкаваліся ў беларускіх метрапольных і эміграцыйных перыёдыках. Змешчана ў зборніку і звязаная з Беларуссю частка ўспамінаў Льва Акіншэвіча.

Важную частку зборніка складаюць эпісталярыі. Нізкі выбранага ліставання Льва Акіншэвіча тут пададзены паводле храналогіі асноўнай часткі лістоў у кожнай групе. Арыгіналы захоўваюцца ў фондзе БІНіМа ў БДАМЛМ, у архіве а. Льва Гарошкі ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане, у фондзе Міколы Сільвановіча ў Бібліятэцы і архіве Канады ў Атаве, а таксама ў архіве Навуковага таварыства імя Шаўчэнкі ў Нью-Ёрку.

У зборніку змешчаныя таксама тэксты пра Льва Акіншэвіча і яго працы, а таксама найпаўнейшая на сёння бібліяграфія гісторыка.

Кніга з'яўляецца вынікам плённага супрацоўніцтва беларускіх і ўкраінскіх даследчыкаў і з'яўляецца першым кніжным выданнем творчай спадчыны Льва Акіншэвіча.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

# МІНЮСТ РАСПАЧАЎ ПАЗАПЛАНАВУЮ ПРАВЕРКУ ЗГУРТАВАННЯ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

Міжнародная грамадская арганізацыя "Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»" 6 ліпеня атрымала ліст Міністэрства юстыцыі з паведамленнем аб пачатку правядзення "кантрольных мерапрыемстваў па вывучэнні дзейнасці [арганізацыі] на прадмет адпаведнасці патрабаванням заканадаўства Рэспублікі Беларусь і статута".




Дакументы за апошнія тры з паловай гады, пералік назваў якіх займае аж тры старонкі, неабходна прадаставіць у Міністэрства да 13 ліпеня. Асноўная частка дакументаў тычыцца працы выбарных органаў Згуртавання, але ёсць і такі пункт: "документы, касающиеся организации МОО ЗБС «Бацькаушчына» школ, курсов по изучению белорусского языка, культуры и истории Беларуси". Відаць, ён выкліканы адной з асноўных мэтаў, замацаванай Статутам: "спрыянне росту павагі беларусаў да сваёй гісторыі, культуры і мовы, любові да роднай зямлі".

Раней пазапланавая праверка распачалася ў дачыненні да іншых грамадскіх арганізацый – РГА "Беларускі ПЭН-Цэнтр", ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", аб'яднанняў "Экадом", "Звяно", "Руху за Свабоду".

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" заснавана ў 1990 годзе, зарэгістравана ў 1991 (сёлета, у снежні, будзе трыццаць гадоў з даты афіцыйнага пачатку дзейнасці), супрацоўнічае з беларускай дыяспарай болей чым з 20 краін свету, спрыяе захаванню гісторыі і набыткаў беларусаў замежжа, наладжванню сувязяў паміж Беларуссю і яе суайчыннікамі. Дзякуючы шматгадовым захадам Згуртавання, у 2014 годзе быў прыняты закон "Аб беларусах замежжа". "Бацькаўшчына" неаднаразова выходзіла з прапановамі ў дзяржаўную праграму і іншыя заканадаўчыя акты па наладжванні эфектыўнага супрацоўніцтва з беларускім замежжам і выкарыстання яго магутнага патэнцыялу ў развіцці краіны. Адным з самых значных і пазнавальных мерапрыемстваў Згуртавання ёсць З'езды беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Важным накірункам аб'яднання з'яўляецца навукова-даследчы. У серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" пабачылі свет 50 кніг, прысвечаных жыццю і дзейнасці беларусаў замежжа.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# Генадзь Вінярскі: "РЭВАЛЮЦЫЮ" ПАКУЛЬ НЕ ВЯРНУЛІ...

Кіраўнік прыватнага выдавецтва "Кнігазбор" распавёў "Народнай Волі" пра тое, як яны трымалі амаль пяцімесячную блакаду.

Нагадаем: 13 студзеня ў офіс "Кнігазбору", а таксама дадому да Генадзя Вінярскага (сябра Рады "Бацькаўшчыны") прыйшлі прадстаўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў.

Забралі некаторыя рэчы, кнігі, у выдавецтва быў арыштаваны рахунак, што паставіла "Кнігазбор" у дастаткова складанае становішча – немагчыма было плаціць друкарні, зарплату работнікам.

"Нават калі грошы прыходзяць, мы імі не можам карыстацца, а значыць, фактычна не можам працаваць, – распавядаў пасля гэтага «Нашай Ніве» кіраўнік «Кнігазбору». – У выдавецтве чатыры супрацоўнікі – цяпер яны працуюць «павольна і няўпэўнена», прыходзяць у офіс праз дзень і перабіваюцца адным камп'ютарам. Адзінае, што мы яшчэ можам, – адпускаем кнігі, якія выйшлі раней.

А ў цэлым чакаем нейкага рашэння. Мы напісалі ў ДФР ліст з запытам пра тэрміны, але на яго яшчэ не адказалі. Не ведаем, што будзе далей".

Генадзь Вінярскі казаў, што аб прычынах такой зачысткі можа толькі здагадвацца, але адзначыў, што зачышчаецца менавіта "беларускамоўнае асветніцкае поле".

Дададзім, што праз два дні пасля візіту ў "Кнігазбор" ДФР прыйшоў таксама да кнігараспаўсюдніка Алеся Яўдахі і выдаўца Андрэя Янушкевіча.

І вось зараз стала вядома, што "Кнігазбор", "Янушкевіч" і Knihi.by разблакаваны – яны сінхронна атрымалі паведамленні пра магчымасць ізноў карыстацца банкаўскімі рахункамі.

"146 дзён фінансавай блакады «Кнігазбор» вытрымаў! – радасна паведаміў кіраўнік выдавецтва. – Рахункі разблакіравалі. Днямі супрацоўнікі атрымаюць першы заробак у 2021 годзе".



– Усё гэта адбылося даволі нечакана і ціха, – кажа Генадзь Вінярскі. – Сітуацыя застаецца не да канца зразумелай, бо афіцыйнага паведамлення з Дэпартамента фінансавых расследаванняў няма. Так што нават не вядома, закрыта справа альбо яна працягваецца.

Думаю, што працягваецца, бо тое, што ў нас забралі падчас вобшуку, да гэтага часу застаецца ў ДФР: камп'ютарная тэхніка, тэлефон, 558 кніг "Рэвалюцыя" Віктара Марціновіча і 150 налепак.

– Як вы даведаліся, што рахунак разблакаваны?

– Праз інтэрнэт-банкінг.

– Самі за тлумачэннямі ў ДФР не звярталіся?

– Пакуль не звяртаўся, пачакаю каля двух тыдняў. А раптам разблакіроўка рахунка – проста выпадковасць? Хаця разблакіравалі і рахункі "Янушкевіча" і Knihi.by, таму, магчыма, і быў на гэта нейкі агульны загад.

– Амаль пяць месяцаў у выдавецтва быў заблакаваны рахунак. Як гэты час выжывалі?

– Амаль усе нашы работнікі маюць яшчэ і іншыя крыніцы даходу, таму зусім без капейкі не засталіся. Хто індывідуальны прадпрымальнік, хто пенсіянер… Але фактычна жылі без грошай.

– Якія далейшыя планы?

– Будзем раскручваць працу. Трэба паглядзець, хто з заказчыкаў яшчэ не збег ад нас , якія кнігі запатрабаваны. Будзем аднаўляць сувязі.

**"Народная Воля"**

навіны

# БАЗА І BORTNIK FUND FOR BELARUS АБВЯСЦІЛІ МЕЦЭНАТКАЙ ГОДУ МАРЫЮ ДЗЯМКОВІЧ

Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне (БАЗА) сумесна з Bortnik Fund for Belarus ушанавала харытатыўную дзейнасць нашай землячкі Марыі Дзямковіч наданнем ёй ганаровага тытула "Мецэнатка года".




"Галоўная управа БАЗА выказвае Вам шчырую падзяку за Вашу актыўную беларускую грамадскую дзейнасць на працягу цэлага Вашага жыцця ў Амерыцы, – гаворыцца ў ганаровым лісце. – Удалечыні ад Бацькаўшчыны Вы захавалі любоў да сваіх каранёў, да роднай мовы і культуры. Нягоды і пакуты, якія перажыў і перажывае народ Беларусі, адгукаюцца ў Вашым сэрцы. Як лекарка, Вы былі адной з першых замежных беларусаў, якія пачалі аказваць дапамогу пацярпелым ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.

Жадаем Вам добрага здароўя і сілаў працягваць надалей жыць жыццём сапраўднай беларускай патрыёткі, адданай дачкі свайго народа".

Марыя Дзямковіч нарадзілася ў сялянскай сям'і на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Пры канцы Другой сусветнай вайны сям'я пераехала ў Польшчу. Лёс сям'і Марыі Дзямковіч падчас вайны стаў адной з сюжэтных ліній рамана "Пакутны век" пісьменніка Васіля Якавенкі.

Працавала дзіцячай доктаркай. За сваю працу атрымлівала ўзнагароды ад Міністэрства аховы здароўя ПНР.

Ад 1970 г. у ЗША. Жыла і працавала доктарам у Пітсбургу, потым пераехала пад Вашынгтон.

Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС неаднойчы выступала ініцыятарам навукова-метадычнай і матэрыяльнай дапамогі Беларусі. На пачатак 1992 г. пераслала ў Беларусь медыкамэнтаў на суму больш як 100 тысяч даляраў. Арганізавала наведванне Беларусі амерыканскай дэлегацыяй медыкаў на чале з прафесарам Пітсбургскага ўніверсітэта Томасам Фолі. Дзякуючы актыўнай дапамозе Марыі Дзямковіч і беларускай грамады ЗША, яму ўдалося атрымаць грант на 240 тысяч даляраў дзеля супрацоўніцтва паміж амерыканскімі і беларускімі лекарамі, што спецыялізуюцца на медычнай радыялогіі.

Атрымала шматлікія лісты падзякі ад амбасадараў, міністра замежных спраў Беларусі, генеральнага сакратара ААН Бутраса Бутрас-Галі.

Многія гады падтрымлівала газету "Беларус", а таксама шматлікія дабрачынныя арганізацыі ў ЗША, у тым ліку Bortnik Fund for Belarus. Уздымала беларускае пытанне на сустрэчах з прэзідэнтамі ЗША Бушам (старэйшым) і Клінтанам.

**Паводле Вячаслава Бортніка**

# ТБМ ПАТРАБУЕ СПЫНІЦЬ ПЕРАСЛЕД ЗНЯВОЛЕНЫХ ЗА ЎЖЫВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ТУРМАХ

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алена Анісім накіравала лісты ва ўстановы МУС, у якіх заявіла пра ўціск зняволеных сяброў арганізацыі ТБМ, якія гавораць па-беларуску.

Алена Анісім нагадала іх кіраўніцтву, што "гэта парушэнне дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь".

Пра гэта Анісім расказала ў Facebook.

Яна прапанавала "правесці тлумачальную працу ў сістэме МУС аб недапушчальнасці пераследу зняволеных за карыстанне дзяржаўнай беларускай мовай".

Алена Анісім не назвала, у якія канкрэтна папраўчыя ўстановы адправіла звароты, але зазначыла, што ТБМ адсочвае сітуацыю з парушэннем правоў яго сяброў.



**Зняволены праваабаронца Валадар Цурпанаў, якога пакаралі карцарам за беларускую мову**

### Каго дыскрымінавалі ў турме за беларускую мову

Сярод тых, хто апошнім часам заяўляў пра дыскрымінацыю паводле моўнай прыкметы, зняволены праваабаронца Валадар Цурпанаў, якога трымаюць у магілёўскай турме № 4. Актывіста двойчы каралі карцарам, бо размаўляе з ахоўнікамі па-беларуску.

Па словах жонкі Ірыны, якая бачылася з мужам на спатканні 15 чэрвеня, другі раз яго адправілі ў штрафны ізалятар "за злоўжыванне беларускай мовай". З тлумачэння Валадара яна зразумела, што не ўсе супрацоўнікі турмы разумеюць беларускую мову, а некаторыя словы лічаць нават абразлівымі.

У турму Цурпанаў трапіў пасля месяца знаходжання на "хіміі" ў райцэнтры Круглае. Там яго абвінавацілі ва ўхіленні ад адбывання пакарання, а суд Круглянскага раёну пакараў яго за гэта двума гадамі калоніі агульнага рэжыму.

На судовым працэсе актывіст заяўляў, што супрацоўнікі Круглянскай спецкамендатуры парушалі ягонае канстытуцыйнае права на карыстанне роднай мовай. Ён сцвярджаў, што яны не толькі адмаўляліся гаварыць з ім па-беларуску, але ігнаравалі ягоныя патрабаванні рыхтаваць дакументы, якія тычыліся ягонага знаходжання пад вартай, на беларускай мове. У судзе супрацоўнікі тлумачылі гэта тым, што справаводства ў іх рускамоўнае, і прызнаваліся, што з такім асуджаным, як Цурпанаў, сутыкнуліся ўпершыню.

Падчас разгляду крымінальнай справы судом не было задаволенае хадайніцтва Цурпанава, каб працэс вёўся па-беларуску. Сваю пазіцыю прадстаўнік дзяржаўнага абвінавачвання і суддзя аргументавалі тым, што ў Беларусі дзве дзяржаўныя мовы, таму яны маюць поўнае права з падсудным гаварыць па-руску.

**svaboda.org**

**навіны**

# SYMPA просіць праявіць салідарнасць і падтрымаць арыштаваную даследчыцу Таццяну Кузіну

28 чэрвеня 2021 года каля 22:00 у Нацыянальным аэрапорце Мінск падчас праходжання пашпартнага кантролю на рэйс у Тбілісі была затрыманая беларуская экспертка і даследчыца Таццяна Кузіна. На працягу некалькіх гадзін месцазнаходжанне Таццяны было невядомае. Наступнай раніцай следчы праінфармаваў родных Таццяны, што яна ўтрымліваецца ў ізалятары часовага ўтрымання на вул. Акрэсціна як падазраваная па крымінальнай справе. Адвакат Таццяны змог сустрэцца з ёй у той самы дзень, 29 чэрвеня.

1 ліпеня папярэдняе ўтрыманне Таццяны было падоўжанае да 10 дзён, яна была пераведзена ў следчы ізалятар №1 на вул. Валадарскага ў Мінску. На момант напісання гэтага тэксту прычына затрымання і артыкулы крымінальнага кодэксу, якія інкрымінуюцца Таццяне, невядомыя. Адвакат падтрымлівае сувязь з сям'ёй Таццяны, аднак ён быў вымушаны даць падпіску аб неразгалошванні і не можа паведаміць нават пра змест абвінавачванняў, якія прад'яўляюцца да Таццяны.

Таццяна - вядомая беларуская экспертка у сферы грамадзянскай супольнасці, грамадзянскага ўдзелу і публічнага адміністравання, атрымала ступень магістра паліталогіі ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце (ЕГУ).

Таццяна стаяла ля вытокаў стварэння Школы маладых мэнэджэраў публічнага адміністравання (SYMPA) і Беларускага інстытута рэформы і трансфармацыі публічнага адміністравання (BIPART), у межах якіх сёння выкладае і займаецца даследчай дзейнасцю. Больш за 11 гадоў SYMPA паспяхова дае маладым беларусам нефармальную адукацыю ў сферы публічнага адміністравання. Праект налічвае больш за 250 удзельнікаў і выпускнікоў, сярод якіх беларускія дзяржслужачыя, грамадскія актывісты, бізнесмены, журналісты, а таксама прадстаўнікі іншых прафесій і сфер дзейнасці.



Разам са сваімі калегамі з SYMPA Таццяна займаецца даследаваннямі ў сваёй экспертнай сферы. Яна зрабіла ўнёсак у шматлікія праграмныя, стратэгічныя і даследчыя дакументы, у тым ліку ў рамках удзелу SYMPA ў EU-STRAT - міжнародным даследчым праекце, які ажыццяўляўся кансорцыумам вядучых еўрапейскіх універсітэтаў (улучна з Свабодным універсітэтам Берліна і Лейдэнскім універсітэтам ў Нідэрландах) і навукова-даследчых цэнтраў (think tanks) у 2016-2019 гадах.

Будучы даўняй прызнанай удзельніцай беларускай даследчай супольнасці Таццяна зрабіла велізарны ўнёсак у яе развіццё і ўстойлівасць. У 2010-2015 гадах яна была выканаўчым дырэктарам Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS), а таксама супрацоўнічала з Беларускай даследчай радай (BRC) ды іншымі навукова-даследчымі цэнтрамі і арганізацыямі грамадзянскай супольнасці на працягу ўсёй сваёй кар'еры.

Таццяна таксама з'яўляецца прадстаўніцай беларускай акадэмічнай супольнасці. У 1996-2009 гадах яна працавала ў ЕГУ, спачатку ў Мінску, а пасля вымушанага закрыцця ЕГУ ў 2004 годзе і рэлакацыі ўніверсітэта ў Літву – ў Вільні. У розныя гады Таццяна ў ЕГУ была намесніцай дэкана франка-беларускага факультэта палітычных і адміністрацыйных навук, кіраўніцай Офіса публічных і міжнародных сувязяў, выкладчыцай бакалаўрскай праграмы "Палітычныя і еўрапейскія даследаванні".

Арышт Таццяны стаўся нечаканым і шакавальным развіццём рэпрэсіўнай палітыкі беларускіх уладаў, якія распачалі грубы напад на прадстаўнікоў беларускай даследчай і экспертнай супольнасці. Усяго за некалькі дзён да затрымання Таццяны вядомы беларускі палітычны аналітык Арцём Шрайбман быў вымушаны пакінуць краіну праз пагрозу арышту. Такая самая сітуацыя і ў эканаміста Сяргея Чалага, які цяпер знаходзіцца ва Украіне. 30 чэрвеня без усялякіх на тое падставаў была затрыманая іншая вядомая беларуская экспертка ў сферы ўнутранай і знешняй палітыкі Беларусі – Валерыя Касцюгова, якая ўзначальвае праект "Наша думка".

Каманда SYMPA лічыць, што арышт Таццяны Кузінай з'яўляецца яшчэ адной праявай пераследу і ўціску свабоды думкі і свабоды слова ў Беларусі, які ўвесь час узмацняецца.

Мы просім вас выказаць салідарнасць з Таццянай Кузінай і беларускай экспертнай супольнасцю любым даступным для вам спосабам, напрыклад:

1. Як мага шырэй распаўсюдзіць інфармацыю пра справу Таццяны;
2. Накіраваць да беларускіх уладаў ліст пратэсту супраць затрымання Таццяны Кузінай і беспэрапынных рэпрэсіяў у дачыненні да беларускай грамадзянскай супольнасці;
3. Накіраваць адкрыты ліст падтрымкі Таццяне і іншым даследчыкам,. якія церпяць пераслед у Беларусі;
4. Падзяліцца відэапаведамленнямі, адрасаванымі Таццяне і яе сям'і;
5. Прыняць удзел у любой іншай акцыі салідарнасці з Таццянай Кузінай і беларускай экспертнай супольнасцю.

Загадзя ўдзячныя за вашу салідарнасць і падтрымку!

**School of young managers in Public administration**

# Руслан Кулевіч прэзентаваў у Беластоку свае кнігі

Гарадзенскі журналіст, які вымушана пакінуў родны горад, працягвае сваю працу і збірае ўспаміны старажылаў.




У сталіцы Падляшша ён упершыню расказаў аб працы над дзвюма сваімі кнігамі: "Горад адзін, успаміны розныя" і "Гісторыі з гарадзенскіх вуліц":

– Гэта першая прэзентацыя ў Беластоку маіх дзвюх беларускамоўных кніг, якія я выпусціў у Гародні ў 2019-2020 гадах. Мяне запрасіў Паша Міцкевіч з фонду "Акно на Усход" і Інстытут культуры ў Беластоку, і мне вельмі прыемна. Спадзяюся, што праз два месяцы мы зробім тур па Польшчы з ужо польскамоўнай кнігай, зараз мы займаемся перакладам. Магчыма, у наступным годзе я выпушчу кнігу "Гродзенцы здалёк", якую я планаваў у Гародні выпусціць, але з прычыны палітычнай сітуацыі не паспеў, а таксама я планую выпусціць кнігу пра гісторыю гарадзенскага футбола, бо я шмат цікавых гісторый накапаў за апошнія пяць гадоў.

Руслан Кулевіч просіць асоб, якія маюць сямейныя гісторыі, звязаныя з Гароднят, звяртацца да яго і дзяліцца сваімі ўспамінамі. Прэзентацыя кніг журналіста прайшла ў Падляшскім інстытуце культуры.

**Яна Запольская, "Беларускае Радыё Рацыя"**

навіны

# У ЗАЛЕШАНАХ ПРЭЗІДЭНТ ПОЛЬШЧЫ АНДЖЭЙ ДУДА ЎШАНАВАЎ ПАМЯЦЬ ЗАБІТЫХ ЖЫХАРОЎ ВЁСКІ



Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда 7 чэрвеня прыбыў на Беласточчыну на запрашэнне прадстаўнікоў беларускіх арганізацый – старшыні Беларускага саюза ў Польшчы Яўгена Вапы, старшыні Беларускага гістарычнага таварыства прафесара Алега Латышонка і старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства Яна Сычэўскага. Доўгая размова прэзідэнта з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый адбылася ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, а папярэдзіў яе брыфінг прэзідэнта з удзелам шматлікіх журналістаў. Аднак візіт Анджэя Дуды пачаўся на Святой Гары Грабарцы з сустрэчы з мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы Савам і праваслаўным духавенствам. Вельмі важнай часткай візіту было наведанне Залешан.

У Залешанах разам з прэзідэнтам маліліся мітрапаліт Сава, епіскап Гайнаўскі Павел і епіскап Сямятыцкі Варсанофій. Каля крыжа маліліся мясцовыя жыхары, а таксама Яўген Вапа, Алег Латышонак і Ян Сычэўскі. У суправаджэнні ганаровай варты Анджэй Дуда ўсклаў вянок да крыжа ў месцы, дзе 29 студзеня 1946 года атрадам "Бурага" была падпалена хата з жыхарамі Залешан. Ігуменне Кацярына расказала пра Жаночы манастыр у Залешанах. Старшыня Беларускага саюза ў Польшчы Яўген Вапа заявіў, што Залешаны гэта месца, палітае крывёй, сімвал трагедыі вёсак, якія пацярпелі ад узброенага падполля ў пачатку 1946 года.

Прэзідэнт, спасылаючыся на гісторыю Рэчы Паспалітай многіх культур і нацыянальнасцяў, заявіў, што хацеў бы будаваць добрыя адносіны з беларускай меншасцю:

– Я прыбыў на Падляшша на запрашэнне прадстаўнікоў беларускай меншасці. 26 сакавіка мы спаткаліся ў Прэзідэнцкім палацы ў Варшаве, доўга размаўлялі пра польска-беларускія адносіны ў шырокім аспекце – не толькі аб тым, што адбываецца ў Польшчы, але таксама і аб тым, што адбываецца ў Беларусі.

Дырэктар белліцэю Андрэй Сцепанюк у суправаджэнні настаўнікаў і вучняў паказалі прэзідэнту школу. Затым у спартовай зале адбылося спатканне прэзідэнта Анджэя Дуды з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый, адукацыйных і культурных устаноў. Прынялі ў ім удзел таксама архіепіскап Бельскі Грыгорый і дэкан Бельскай акругі мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк, маршалак Падляшскага ваяводства Артур Касіцкі, падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі і мясцовыя самаўрадаўцы.

– Польскі народ і Польшча не могуць рабіць выгляд, што нічога не здарылася. Здарылася такое, чаго не адвернем. Здарылася такое, што нам вельмі цяжка зразумець. Здарылася зло. Пэўна можна на яго глядзець з розных аспектаў, але калі гінуць жанчыны і дзеці, то няма ў гэтым дабра. Таму я лічыў і лічу, што маім абавязкам як прэзідэнта Польшчы было паехаць і схіліць галаву каля гэтага крыжа, памаліцца і ўскласці там кветкі. І сказаць: так, здарылася, людзі загінулі і гэта страшна. Прашу, каб вы прынялі мае словы спачування па гэтай прычыне, вялікай прыкрасці, калі можна так сказаць, што гэта здарылася, – заявіў Анджэй Дуда ў час выступлення ў белліцэі.

Старшыня Беларускага саюза ў Польшчы Яўгена Вапа падзякаваў прэзідэнту Анджэю Дуду за ўшанаванне на дзяржаўным узроўні памяці ахвяр атрада "Бурага":

– Прыязджаючы ў Залешаны і ўскладаючы вянок да крыжа, стаўшы на калені, пан прэзідэнт зрабіў пералом, якога мы, беларусы, чакалі вельмі доўга, і перш за ўсё чакалі нашчадкі ахвяр трагічных дзён, аб якіх пан прэзідэнт не забыў, сустрэўся сёння з імі. Гэтае здарэнне з'яўляецца гістарычным актам у польска-беларускіх адносінах тут у нас, на Падляшшы. Думаю, што і на карысць адносін паміж Польшчай і Беларуссю таксама. З 1985 года на такі крок не наважваліся кіраўнікі ўрадаў Польшчы з розных палітычных лагераў.

Яўгена Вапа звярнуў увагу на адсутнасць рэальных фінансавых сродкаў на выдавецкія, медыйныя і сур'ёзныя мастацкія патрэбы беларусаў у Польшчы. Дадаў таксама, што рэальная вартасць сродкаў, якія выдзяляюцца з дзяржаўнага бюджэту Польшчы на дзейнасць беларусаў у Польшчы, з году ў год меншае.

– Мы сваёй прысутнасцю на Падляшшы сведчым, што тут былі, ёсць і будзем, – гаварыў Яўгена Вапа і прапанаваў увесці ў план дзейнасці самаўрада Падляшскага ваяводства заснаванне Цэнтра беларускай культуры і выдзяленне адпаведных фінансавых сродкаў на патрэбы гэтай установы і падтрыманне дзейнасці беларускай меншасці.

– У новым праекце Рэгіянальнай аператыўнай праграмы ёсць выдзеленыя сродкі, накіраваныя да нацыянальных меншасцяў і да грамадзян іншых краін. На гэта выдзяляецца 7 мільёнаў еўра з Еўрапейскага грамадскага фонду, – зазначыў маршалак Падляшскага ваяводства Артур Касіцкі і запрасіў прадстаўнікоў беларускіх арганізацый да ўдзелу ў грамадскіх кансультацыях па праекце Рэгіянальнай аператыўнай праграмы.

Старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак выступіў з дакладам аб супольнай дзейнасці і супольным змаганні палякаў і беларусаў у мінулым. Расказаў пра цяперашнюю рэчаіснасць у кантэксце трагічных падзей 1946 года. У канцы выступлення прафесар Алег Латышонак заявіў пра неабходнасць памятаць пра добрае ў супольнай гісторыі беларусаў і палякаў і разам будаваць агульную будучыню.

Старшыня Беларускага грамадска культурнага таварыства Ян Сычэўскі выказаў крытыку на адрас маршаў памяці выклятых жаўнераў, якія ладзяцца ў Гайнаўцы.

Запрошаныя на сустрэчу прадстаўнікі беларускай меншасці выказваліся на розныя тэмы і звярталіся да прэзідэнта з прапановамі і просьбамі. Самым канкрэтным было выступленне Паўла Станкевіча з Фонду "Тутака", які папрасіў Анджэя Дуду ўзяць патранат і аказаць дапамогу мерапрыемству, якое магло б быць працягам славутага фестывалю "Басовішча" ў Гарадку, але з іншай назвай і ў змененай форме.

**Паводле Аляксея Мароза, "Ніва"**

навіны

# ЦІХАНОЎСКУЮ, КАЛЕСНІКАВУ І КАВАЛЬКОВУ ЎГАНАРАВАЛІ ПРЭМІЯЙ ЯНА НОВАКА-ЕЗЯРАНСКАГА

4 ліпеня ў польскім Уроцлаве прайшла цырымонія ўзнагароджання польскай нацыянальнай прэміяй за грамадска-палітычную актыўнасць і заслугі перад грамадзянскай супольнасцю, паведаміла Каардынацыйная рада.

На ўручэнні прэміі былі Сьвятлана Ціханоўская, Вольга Кавалькова і сястра Марыі Калеснікавай Таццяна Хоміч.

“На жаль, Марыя не можа быць сёння з намі. Яе ўтрымліваюць у засцэнках ужо 9 месяцаў. Але я адчуваю ейны непераможны дух. Яна абавязкова выйдзе на свабоду, як і астатнія палітвязні”, – сказала Ціханоўская.

На цырымоніі прысутнічалі таксама бацькі Рамана Пратасевіча.




Вольга Кавалькова, Сьвятлана Ціханоўская і Таццяна Хоміч з партрэтам Марыі Калесьнікавай

Ян Новак-Езяранскі – польскі журналіст, публіцыст, палітычны актывіст, стваральнік польскай службы Радыё Свабода, які быў яе дырэктарам цягам 25 гадоў, “вораг №1 уладаў Польскай Народнай Рэспублікі”, антыкамуніст, актывіст польскай Арміі Краёвай падчас Другой сусветнай вайны.

У 2006 годзе лаўрэатам прэміі Новака-Езяранскага стаў першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Сярод іншых знаных лаўрэатаў прэміі – Вацлаў Гавэл, Джордж Буш – старэйшы, Валдас Адамкус, Лешэк Бальцэровіч, Збігнеў Бжэзінскі, Томас Венцлава. Прэмія ўручаецца з 2004 года.

svaboda.org



# САМАКІРАВАННЕ ВАРШАВЫ ВОЗЬМЕ ПАТРАНАТ НАД БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛКАЙ

12 чэрвеня віцэ-маршалак польскага Сейма Пётр Згажэльскі наведаў школку для дзяцей, арганізаваную Цэнтрам Беларускай Салідарнасці ў Варшаве.

Тут вучацца дзеці беларускіх уцекачоў. Таксама ў школку завіталі: Чэслаў Скажынскі з фонду Polonia Union, а таксама намеснік войта Ізабеліна Міхал Постэк. Дзякуючы намаганням гасцей, дзеці атрымалі падарунак – сінтэзатар Yamaha, таму цяпер для іх можна арганізоўваюць музычныя заняткі.

Па выніках сустрэчы вырашылі, што прадстаўнікі мясцовага самакіравання Варшавы возьмуць патранат над школкай, а таксама персанальную апеку возьме на сябе віцэ-маршалак Сейма.

“Беларускае Радыё Рацыя”

# НЯМЕЦКІ ТЭЛЕКАНАЛ ZDF РАІЦЬ ЧЫТАЦЬ КНІГУ ВОЛЬГІ ШПАРАГІ

Кніга беларускай мысляркі Вольгі Шпарагі “У рэвалюцыі жаночае аблічча” трапіла ў дзясятку лепшых немастацкіх кніжак за ліпень/жнівень 2021 года па версіі нямецкага тэлеканала ZDF.

Кожны месяц адмысловае журы, якое складаецца з вядомых 30 крытыкаў, рэкамендуе да прачытання дзесяць навукова-папулярных кніг, якія “паглыбляюць разуменне грамадскіх пытанняў і дазваляюць лепей разумець грамадскія дэбаты”.

Кніга нашай суайчынніцы знаходзіцца на трэцім месцы ў гэтым спісе. Яна ўключана ў яго, бо паказвае, што барацьба беларускіх жанчын важная для ўсіх жанчын ва ўсім свеце.

Гаворка ў ёй вядзецца пра падзеі жніўня 2020 года ў Беларусі.

budzma.by




# СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ УЗНАГАРОДЖАНА АДНОЙ З НАЙВЫШЭЙШЫХ УЗНАГАРОД ГЕРМАНІІ

Прэзідэнт ФРГ Штайнмаер у Палацы Бельвю ўручыў пісьменніцы Святлане Алексіевіч ордэн “За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германія”.

Беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч узнагароджана ордэнам “За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германія”. Вялікі крыж 1-й ступені яна атрымала з рук прэзідэнта ФРГ Франка-Вальтэра Штайнмаера. Урачыстая цырымонія прайшла 15 чэрвеня, у Берліне, у палацы Бельвю – афіцыйнай рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы.

Ордэн быў заснаваны ў ФРГ у пачатку 1950-х. Адну з вышэйшых узнагарод Германіі ўручае федэральны прэзідэнт.

Штайнмаер у сваёй прамове закрануў тэму шматмесячных пратэстаў у Беларусі. “Жаночы твар – у гэтага мірнага, адважнага і ўсё яшчэ жорстка прыгнятальнага імкнення да будучыні”, – падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

Алексіевіч жыве ў Германіі з верасня 2020 года па запрашэнні Германскай службы акадэмічных абменаў DAAD.

Паводле novychas.by

# ФОТААЛЬБОМ “НІВЫ” АТРЫМАЎ ПРЫЗНАННЕ

Фотаальбом штотыднёвіка беларусаў у Польшчы “Ніва” атрымаў прэстыжнае адзначэнне на конкурсе “Фатаграфічнай публікацыі года”.

На конкурс падалі больш за сто публікацый. Журы адзначыла шэсць публікацый, у тым ліку NIWA FOTO ARCH – збор здымкаў з розных гадоў працы штотыднёвіка, падрыхтаваныя да друку фатографам і культурным дзеячам Паўлам Грэсем. Паўла адзначылі за салідную працу над архівамі і цікавы падыход да архіваў. У выданне трапілі чорна-белыя здымкі са старонак “Нівы”, якая пачала свой шлях у 1956 годзе.

“Беларускае Радыё Рацыя”

гутарка

# НЬЮ-ЁРК ПАДТРЫМЛІВАЕ “БЕЛАРУСЬКАЛІЙ”, А САН-ФРАНЦЫСКА – ЖАБІНКУ

Надзея Нортан жыве ў Каліфорніі і з’яўляецца прэзідэнткай Асацыяцыі беларусаў Амерыкі. У інтэрв’ю Свабодзе яна расказала, як падзеі на радзіме аб’ядналі амерыканскіх беларусаў, як дыяспара дапамагае землякам у Беларусі і як лабіюе беларускае пытанне ў ЗША.




### За год адбылося каля тысячы акцый салідарнасці

“Дыяспара – гэта працяг краіны, з якой яна паходзіць. Тыя працэсы, якія летась адбываліся ў Беларусі, адбываліся і ў дыяспары. Я жыву тут 10 гадоў, час ад часу бяру ўдзел у розных падзеях, але такой хвалі салідарнасці, якую я пабачыла летась, яшчэ не было. 26 чэрвеня адбыўся першы “ланцуг салідарнасці” ў Сан-Францыска. Я пабачыла там 200 чалавек, большую частку з іх я і не ведала. Запал унутры быў неймаверны, але я не падазравала, што гэта быў толькі пачатак.

Падзеі жніўня паднялі акіянскую хвалю. Гэта вылілася ў беспрэцэдэнтную колькасць акцый салідарнасці. Самая буйная адбылася ў Нью-Ёрку, куды з’ехаліся прадстаўнікі розных штатаў. Сабралася каля 2 тысяч чалавек. На заходнім узбярэжжы на акцыю 15 жніўня прыйшло каля 500 чалавек. Мы адчулі, што Беларусь таксама тут, з намі. Гэта было вельмі неабходнае адчуванне, каб быць разам, выказвацца. І з тых часоў гэты працэс не спыняецца. Ужо прайшло каля тысячы акцый. Практычна кожныя выходныя ў розных штатах”.

### “Падарожжа БЧБ”

“Дагэтуль працягваецца акцыя з бел-чырвона-белым сцягам. Мы яго перадаём у розныя штаты. Пачалі мы ў Каліфорніі, і сцяг ужо перасек усе Злучаныя Штаты. Цяпер ён знаходзіцца ў Шарлот, у Паўночнай Караліне. Яго рыхтуюцца перадаць у Атланту. У акцыю ўжо заангажаваныя сотні людзей. Для іх гэта вялікі гонар, і я бачу павагу да нашых сімвалаў. Гэта штандар. Тое, як яго носяць, як прымаюць... ён мае сваю асабістую гісторыю. І пазней ён, хутчэй за ўсё, паедзе ў Еўропу”.

### Каму патрэбны акцыі за мяжой

“Людзі, якія знаходзяцца за мяжой, не могуць маўчаць, яны не могуць спакойна сядзець дома. Ім трэба выйсці і выказаць сваю пазіцыю да таго, што адбываецца ў Беларусі. Другі момант – гэта падтрымка.

Але вельмі важны чыннік – давodзіць усё гэта да ведама амерыканцаў. Мы адчулі, што калі больш людзей пра гэта ведае, складаецца зусім іншая сітуацыя. Стварацца беларускі парадак дня. Я праехала шмат штатаў і магу з упэўненасцю сказаць, што калі ты ідзеш у майцы ў бела-чырвоных колерах або з гербам «Пагоня», то цябе пазнаюць на вуліцы і не беларусы. Месяц таму мы сядзім каля абеліска Джорджу Вашынгтону, глядзім у тэлефоны, а побач на траве невялікі сцяжок. І тут чуем з акцэнтам: «Жыве Беларусь!». Чалавек бегаў, пабачыў сцяжок і прыпыніўся, яму было важна выказаць падтрымку. І гэта я сустракала ў шмат якіх гарадах. Людзі крычаць «Long live Belarus!», асабліва калі мы робім мота- ці велапрабегі.

І праз 10 месяцаў прысутнасці Беларусі ў амерыканскай свядомасці мы пачалі бачыць вынікі. Гэта ўжо адукаваная пазіцыя, нас не ўспрымаюць як Зімбабвэ, што гэта невядома дзе. З’явілася павага, а не жаль ці спачуванне.

І падчас вось такіх акцый да нас падыходзяць людзі і пытаюцца: «Чым мы можам дапамагчы, куды можна перавесці грошы?» Дзядзька майго мужа-амерыканца ўжо некалькі разоў дасылаў мне чэкі па некалькі сотняў даляраў і прасіў перавесці іх на падтрымку пратэсту. Адна з задач дыяспар у свеце – падтрымліваць гэты парадак дня, каб пра нас гаварылі і нас бачылі”.

### Грашовая дапамога Беларусі

“Ахвяраванні ад беларусаў Амерыкі ўвесь час ідуць праз ByHelp і BySol. Але мы маем і ўласныя праекты, якія мы падтрымліваем. На жаль, мы не можам пра гэта казаць публічна па зразумелых прычынах. Гэта датычыць і сем’яў палітвязняў, іншых праектаў. Да нас, час ад часу, з’вяртаюцца людзі і мы падтрымліваем іх. Таму ў ЗША ёсць і асобныя зборы грошай. Мы стварылі сетку беларусаў Амерыкі і гэта значна спрашчае сітуацыю.

Мы атрымліваем зварот, правяраем гэтую справу, што і як, збіраем грошы і перадаём як мага больш бяспечным спосабам”.

### Падтрымка страйкамаў

“Розныя штаты ў нас падтрымліваюць розныя страйкамы або заводчан, якія апынуліся ў цяжкай сітуацыі. Нью-Ёрк, напрыклад, – “Беларуськалій”.

### Падтрымка дваровых ініцыятыў

“Каліфорнія ўключылася ў падтрымку дваровых ініцыятыў. І гэта працягваецца. Мы пачалі таксама апеку над пэўнымі гарадамі. Сан-Францыска такім чынам падтрымлівае Жабінку. Гэта сталася вельмі выпадкова, я не звязаная з Жабінкай, але супрацоўніцтва вельмі добрае. Безумоўна, гэта фінансавая падтрымка”.

### Палітычны лабізм на карысць Беларусі

“Да 2020 году мы гэтым не займаліся. Калі вельмі сур’ёзна паўстала пытанне пра Акт аб дэмакратыі ў Беларусі, гэта зрабілася, магчыма, першай нагодай для вялікай колькасці беларусаў стаць лабістамі. Даведваліся, хто, дзе і якія кангрэсмэн, хто ўзначальвае бальшыню. Існуюць формы звароту, усё адбываецца праз петыцыі. Ёсць вельмі класная аплікацыя, якая дае магчымасць хуткага звароту да Кангрэсу і да прэзідэнта. Яна называецца Resistbot і даволі часта тут выкарыстоўваецца.

Я перакананая, што калі б не актыўнасць беларускай дыяспары ў ЗША, нам не ўдалося б. Калі мы глядзім назад, то гэта практычна немагчыма, каб за 3 месяцы правесці Акт праз увесь спектр Кангрэсу і ўскочыць у самы апошні вагон – Omnibus bill (прапанаваны закон, які ахоплівае шэраг не звязаных з сабою тэм. – РС). І перад вакацыямі Акт быў зацверджаны і Кангрэсам, і прэзідэнтам”.

### Лісты Байдэну перад сустрэчай з Пуціным

“Гэтымі днямі праводзіцца буйная акцыя “Stop violence in Belarus” (Стоп гвалту ў Беларусі), падчас якой мы просім вызваліць палітвязняў. Зварот ідзе да Кангрэсу і да прэзідэнта. На сённяшні дзень ужо падпісалася тысяча чалавек. Гэта на пару сотняў больш, чым было подпісаў за Акт аб дэмакратыі. Падпісаць петыцыю можна на сайце Асацыяцыі беларусаў Амэрыкі. Гэта займае літаральна дзве хвіліны.

**Дзмітры Гурневіч, svaboda.org**

Працяг чытайце на сайце zbsb.org



У дзень памяці Васіля Быкава наведалі яго на Усходніх могілках і ўсклалі кветкі ад ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" і Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Народнага пісьменніка Беларусі не стала 22 чэрвеня 2003 года. Вечная памяць любімаму празаіку, выдатнаму сыну Беларусі!

**in memoriam**

# НА 82 ГОДЗЕ ЖЫЦЦЯ ПАМЁР УЛАДЗІМІР СІДАРУК

26 чэрвеня на 82 годзе жыцця памёр Уладзімір Сідарук, шматгадовы карэспандэнт "Нівы".

Пісаў допісы з роднай Кузавы, Чаромхі і Гайнаўшчыны. У 60-ыя гады аб'ездзіў з кінаперасоўкай усю Беласточчыну ды свой асветніцкафільмавы шлях апісаў ва ўспамінах, насычаных сацыялагічнымі і кампанейскімі цікавосткамі.

Як распавёў у перадачы "З Падляшша родам. Месцы. Падзеі. Людзі" – ягоная прыгода з "Нівай" пачалася яшчэ ў 1959 годзе.

– Напісаў у "Зорку" і там быў конкурс такі: трэба было паслаць малюнак, што запамяталася з дзяцінства. І я зрабіў такі малюнак, намаляваў, як партызаны пастралялі немцаў. І мне прызналі кніжную ўзнагароду, памятаю зараз, атрымаў казкі "Чароўная чаша" на беларускай мове.

Дзядзька Валодзя – бо так мы называлі яго ў рэдакцыі – быў чалавекам з прыродным пачуццём справядлівасці. Згадвае паэтка і журналістка "Нівы" Міраслава Лукша.

– Гэта быў нейкі з'езд карэспандэнтаў. Я ў "Ніве" працую з 1984 года, памятаю прыехалі на з'езд



карэспандэнты. Тады "Ніва" была на вуліцы Суражскай. Але ў нас сустрэча была ў канферэнц-зале выдавецтва.

За звыш 60 гадоў супрацоўніцтва з тыднёвікам "Ніва" Уладзімір Сідарук напісаў каля трох тысячаў тэкстаў. Пра працу ў брыгадзе кінаперасоўкі на Гайнаўшчыне і Бельшчыне ў 1960-ыя гады і пра штодзённае тагачаснае жыццё падляшскіх вёсак маглі мы прачытаць у цыклічным аповедзе Уладзіміра Сідарука "Засталіся адно ўспаміны" і "Як працвітала Чаромха". У планах Уладзіміра Сідарука было выдаць кнігу ўспамінаў "Наперакор лёсу", прысвечаную памяці сваіх бацькоў і жонкі Анны.

**Анна Шайкоўская, „Беларускае Радыё Рацыя", фота Ганны Кандрацюк**

Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" шчыра смуткуе і выказвае спачуванні родным і блізкім спадара Уладзіміра Сідарука.

## Беларускі каляндар памятных дат на ліпень 2021 года

**6 ліпеня**

- 170 гадоў таму, у 1851-м, нарадзіўся Янка Лучына (сапр. Неслухоўскі), паэт. Памёр у 1897-м.
- 80 гадоў таму, у 1941-м, савецкім НКУС перад прыходам немцаў, пад Глыбокім, расстраляны вязні Берозвецкай турмы.

**7 ліпеня**

- 225 гадоў таму, у 1796-м, нарадзіўся Ян Чачот, паэт, фальклярыст. Памёр у 1847-м.

**8 ліпеня**

- 160 гадоў таму, у 1861-м, нарадзілася Магдалена Радзівіл, дзяячка нацыянальнага культурнага руху. Памерла ў 1945-м.

**10 ліпеня**

- 150 гадоў таму, у 1871-м, нарадзіўся Павел Дземідовіч, этнограф. Памёр у 1931-м.

**15 ліпеня**

- 145 гадоў таму, у 1876-м, нарадзілася Цётка (сапр. Алаіза Пашкевіч, у замужжы Кайрыс), грамадска-палітычная дзяячка, паэтэса. Памерла ў 1916-м.
- 95 гадоў таму, у 1926-м, нарадзіўся Ян Садоўскі, скарыназнавец, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Канадзе. Памёр у 1982-м.

**16 ліпеня**

- 120 гадоў таму, у 1901-м, нарадзіўся Аляксандр Крыт, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і ЗША. Памёр у 1983-м.
- 45 гадоў таму, у 1976-м, памёр Янка Станкевіч, мовазнавец, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**20 ліпеня**

- 165 гадоў таму, у 1856-м, нарадзіўся Часлаў Пяткевіч, этнограф. Памёр у 1936-м.

**21 ліпеня**

- 130 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Сымон Кандыбовіч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне. Памёр у 1972-м.

**23 ліпеня**

- 115 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Антон Валынчык, кампазітар. Памёр у 1985-м.
- 55 гадоў таму, у 1966-м, памёр Аляксандр Ружанцоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**24 ліпеня**

- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Аляксандр Орса, доктар прыродазнаўства, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1959-м.

**25 ліпеня**

- 105 гадоў таму, у 1916-м, нарадзіўся Мікалай Каранеўскі, інжынер, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Памёр у 1973-м.
- 15 гадоў таму, у 2006-м, памёр Янка Брыль, народны пісьменнік.

**27 ліпеня**

- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Язэп Горыд, графік, жывапісец. Загінуў у 1939-м.

**31 ліпеня**

- 40 гадоў таму, у 1981-м, памёр Міхась Ларчанка, літаратуразнавец.

**Беларусы ў свеце**
№ 6 (229), чэрвень 2021

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27